## БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

# “Рабілі ўсё каб здзівіць свет...”

У канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў на абшарах былога СССР усталяваўся таталітарны рэжым. Змагаліся з іншадумцамі. Не толькі ў камуністычнай партыі, а наогул. Каралі вельмі балюча — звальнялі з працы. Улічваючы ўсеагульнае цяжкае матэрыяльнае становішча жыхарства, гэта было жорсткае пакаранне. За якія словы і погляды пакутвалі людзі? Прывядзем факты з Магілёўскага архіва і Нацыянальнага архіва Беларусі.

У Магілёве працаваў прафесар Фінаменаў М.Я., які нават у 1931-м годзе ўзначальваў Магілёўскае бюро секцыі навуковых працаўнікоў. У тым жа годзе ён быў абвінавачаны ў тым, што праводзіў старую акадэмічную школу ў краязнаўстве, даводзіў, што Кастрычніцкая рэвалюцыя пагоршыла стан бедняка і сярэдняка, не змяніла сацыяльную структуру вёскі, параўноўваў стан сялян з часам вызвалення ад прыгону. Фінаменава М.Я. "як працаўніка з яўна меньшавіцка-кандрацьеўскай канцэпцыяй" звольнілі з працы ў 1932-м годзе.

Дацэнта педінстытута Ярашэўскага звольнілі за правядзенне варожай ідэалогіі: "ён сцвярджаў, што яго погляды асноўваюцца на філасофіі Платона". Прафесара Мушастага Н.Н. звольнілі за тое, што не з партыйных пазіцый выкладаў палітэканомію, і за антысемітызм. Ён на кансультацыі сказаў: "Не будзь хітрым, як яўрэй". Другому выкладчыку дасталося тое ж за дрэнныя адносіны да пралетарскага студэнцтва. Сказаў наконт дрэнных ведаў студэнтаў: "Толькі месца займаеце".

Падобнае паляванне за людзьмі вялося і ў іншых гарадах Беларусі. У 1932-м годзе ў г. Гомелі падставамі да звальнення настаўнікаў школ зьявіліся наступныя выказванні:

Настаўніца Курзава: "узяліся за калектывізацыю незразумелыя людзі і вось давядуць краіну да контррэвалюцыі, робяць усё, каб здзівіць свет, а выходзіць на пасьмешышча, тое самае будзе з палітэхнізацыяй і індустрыялізацыяй".

Наконт склікання сходу пратэсту супраць промпартыі настаўнік Вечар заявіў: "Калі ўжо скончацца ўсе гэтыя сходы і паседжанні", а ў адказ пачуў: "Нічога не зробіш, трэба цягнуць лямку".

Настаўніца 3-й школы заявіла, што "памёр бацька і не даюць яго пахаваць па-людску, але ж мы ноччу звязём яго, паклічам папа і захаваем".

Настаўнік Абалонскі казаў вучням: "цукру прадаюць зараз па невялічкім цэнам таму, што Амерыка не прыняла 4 параходы цукру, пагэтаму яго вярнулі і прадаюць, а мы народ такі, што ўсё з'ядзім".

Вікалаева сцвярджала: "у якім-та горадзе ўзбунтаваліся рабочыя фабрыкі, толькі Савецкая ўлада гэта скрывае, бо баіцца гаварыць аб гэтым праўду". Яна ж, прагледзеўшы п'есу яўрэйскай трупы, заявіла: "мне гэту жыдоўскую мову надаела слухаць на кірмашы".

Настаўнік Сцепанцоў гаварыў: "польская нацыя благародная і таму дысцыпліна ў польскай школе вышэй ад іншых." Наконт адкрыцця адной з устаноў: "наўрад ці будуць добрыя кіраўнікі — усе з сялян".

Настаўніка Пшеляскоўскага звольнілі за тое, што наведваў касцёл.

Фактаў значна болей. Людзей звальнялі з "воўчым білетам". Іх нідзе не хацелі браць на працу. Па краіне распаўсюджвалася ўсеагульнае маўчанне і адабрэнне. Толькі дома, шэптам, казалі тое, што думалі. Менавіта гэтым можна патлумачыць дзеянні дзяцей — вучняў школ. У Магілёве: кіданне венікаў і ануч у партрэты Леніна і Калініна, выкрыкі "Няхай падохнуць усе піянеры". У адной з школ Лупалаўскага раёна вучні пры правядзенні размовы аб Леніне казалі наступнае: "Ленин мне ничего не дал," "Если бы был у меня портрет Ленина, я бы его сжёг", "Раньше были буржуи, теперь есть новые, ничего не делают, а получают жалование" і г.д. Дзеці чулі гэта ад бацькоў і, ня думаючы аб наступствах, казалі. Каралі дзетак і бацькоў. Так у канцы 20-х і пачатку 30-х распраўляліся з іншадумцамі.

**Ігар ПУШКІН,**
**гісторык**



# *Паэтычная гасцёўня Тыднёвіка*

*Пакуль частка нашых таленавітых чытачоў не спяшаецца даслаць свае вершы да нас, ТМ прапануе "сваю" падборку твораў, якія нам вельмі спадабаліся. Спадзяёмся, што наступную нізку вершаў нам удасца скласці выключна з твораў мясцовых паэтаў. Чакаем.*

**Юрась ПАЦЮПА**

## *Самота*

Я іду сусьветы самотнай хадой,
дзе па мне застаецца — самота,
самота,
і паўсюль сустракаю самоту
з бядой,
і сьляды зацякаюць чырвонай
лістотай.
Спачувае душа на Хрыстовым
крыжы,
што вузлом назаўсёды зьвязаўся
з дарогай —
ці на дрэве зімой ліст апошні
дрыжыць,
ці агонь над магілаю постацьцю
дрогкай?
Надараецца хвіля — праз попел-
туман
праступаюць спакойна то твары,
то рэчы,
я бяз веры шапчу анікому:
паглянь! —
аніхто нематой адгукаецца
вешчай.
А калі адхінаю сутоньне
з вачэй —
паўстаюць, як сьцяна, лес
і хмары і хаты,
і, бяз ліку, маленькія рэчы
людзей,
і вялікі прасьцяг, думкай Бога
працяты.
І тады я кажу: розум мой не
ў ва мне,
аж датуль я жыву, пакуль маю
самоту,
гэта толькі прагал, а за ім нечый
сьнег,
аніякі, пусты, некрануты
і цнотны.
Можа ён гэтак вабіць, вядзе праз
гады,
як вандроўніка тога над морам
пяяньне?
Гэта ссохлыя хвалі памерлай
вады,
гэта ценяў травы без вятроў
калыханьне.

***

О Божа! Якою салодкай пакутай
у кожнага ў сэрцы маўклівая
восень!
Прачнешся аднойчы зьдзіўлёна:
як пуста
ў прыродзе, як вусьцішна,
млосна!
А нехта — гартае сваю
канцылярскую кнігу,
а нехта глытае пігулькі і просіць
палёгкі,
а бома павольна ў тумане, так, нібы
даўнейшай парою слабыя пялёсткі.
Штодзень пад нагамі дрыгвою
зыбучай
падманлівы ходнік, каменная выспа,
апошні прытулак, адкуль нашы
душы
няўхільна зьнікаюць, шукаючы
выйсьця.
Ступнямі, як быццам з садранаю
скурай,
намацваю лісьце, калюгі,
прадоньне...
Як рыба на беразе дыхаю — скора
спаймаю няўлоўнасьць, пустэчу
прыпомню.
...На кухні гавораць нажы
па-нямецку,
патэльня — па-польску: ніхто
не зьнікае,
і душы, і сьцены, і ўсё тут на месцы,
а восень... Ах, восень няўхільна
мінае.

***

Толькі ўзыдзе сонца над лясамі,
каб ізноў сагрэць зямлю сырую —
у высокім каталіцкім Храме
я цябе навечна пацалую.
Будуць слухаць ледзяные сьвечкі
месяцовае сьвятло аргана,
а малітва строгая асьвенціць
нашае паганскае каханьне.
І крыжы лязом кранацьме промень,
хлыне дзень праз воскавыя сьцены,
крок прыпынім у яго палоне
мы, узрушана і багавейна.
Нам пакуль няведамы пакуты,
ашчаджаюць нас маўчаньнем лікі,
у цяжкое золата закуты,
у агнёх трывожлівых, шматлікіх.
Ды зямля сырая просіць плуга,
мовіць звон на бітву за Радзіму
выпраўляцца ў дальнюю дарогу,
дзе загінуць і ня ўбачыць сына.

**Ларыса ГЕНІЮШ**

## *Нішто так ня міла*

Нішто так ня міла, як хатні агонь,
што сэрца астылае грэе.
Нішто так няміла, як родны загон,
што сам калісь хлебам засеяў.
Нішто так няміла, як бацькавы кут,
як гул калаўроткаў у вечар;
як гоман вясёлы цапоў на таку,
як дзедава казка ля печы...
Нішто так няміла, як песьні у нас,
як прадзедаў сівы абычай,
аквечаны ў покуці Божы абраз
і Маці Сьвятое аблічча.
Як мілы, вясёлы дыван на
краснох,
што тчэ у задуме дзяўчына —
румянцца шчокі манлівай вясной,
а рукі — як бель палатнінаў!
Пагляне, а вочы — як возера
дно! —
магло б у іх сэрца ўтапіцца,
запутацца ў косы, што русым
прадном
на плечы сплываюць крыніцай.
Нішто так няміла, як шнур нашых
хат,
гасьцінныя нашы парогі,
і вербы, што сталі зялёныя ў рад
ля стрункай, далёкай дарогі.
Нішто так няміла, як сівы курган,
як славы мінулай ўспаміны;
калі не шкадуюць нам ворагі
ран —
пацешаць ў цяжкую хвіліну.
Нішто так няміла, як родны наш
сьцяг,
як нашы дзядоўскія гоні;
нішто так няміла, як тое дзіця,
што сэрцам вітае Пагоню!
Нішто так няміла, як чыны братоў,
ахвярным акрылены ўздымам;
нішто так няміла, як моладзь
ў радох,
як нашы байцы за Радзіму!



# Тэст на эрудыцыю

## Геаграфія

1. Колькі беларусаў жыве зараз у сьвеце?
2. Самая высокая ў Беларусі гара?
3. Чаго ў Беларусі болей — азёраў ці рэк?
4. Колькі магістральных трубаправодаў пракладзена праз Беларусь на Захад?
5. Як па-беларуску завуцца "Брест, Гродно, Минск, Гомель"?
6. Зь якой дзяржавай Беларусь мае найдаўжэйшую мяжу?
7. Адкуль родам В.Быкаў, Р.Барадулін, С.Законьнікаў?
8. Дзе ў Беларусі знойдзена радовішча бурштыну?
9. Вялікае Княства Літоўскае —дзяржава "ад мора да мора". Назавіце гэтыя моры.
10. Якія землі Беларусі апынуліся па-за межамі РБ?




Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 20. Тыраж 2100 асобнікаў.